ГРОДНА
№15 (590),
24 ліпеня 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Кожны мае свой Табор


wikipedia.org

*Свята Перамянення Пана накладае на хрысціян абавязак няспыннага духоўнага перамянення.*

на староны 2

## З Марыяй да супакою і еднасці


grodnensis.by

*9–10 ліпеня ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) адбыліся дыяцэзіяльныя ўрачыстасці. Сёлета іх дэвізам былі словы: "З Марыяй да супакою і еднасці".*

на староны 4

## Касцёл Святой Тройцы ў Росі. Шэдэўр італьянскай скульптуры


parafia-w-rosi.by

*Акрамя цудатворнай фігуры Езуса Журботнага, у святыні знаходзіцца таксама мармуровы саркафаг – шэдэўр мастацтва.*

на староны 5

# ПРА АЛКАГАЛІЗМ, БОЖЫ ДАР І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ


pixabay.com

*Праблема алкагалізму датычыць значнай часткі грамадства*

**У жніўні Каталіцкі Касцёл у Беларусі моліцца ў інтэнцыі цвярозасці. Каб зразумець, чаму, не заўсёды трэба зазіраць у статыстыку. Многім беларусам дастаткова прысесці са сваякамі за стол ці раніцай прайсці каля невялікай крамы. Разам з ростам хваробы алкагалізму паўлічваецца і колькасць сузалежных асоб. Часцей за ўсё гэта жонкі і маці, таксама дзеці.**

на староны 3

# "ГАЛОЎНАЕ – БЫЦЬ СУМЛЕННЫМ".

## РАЗМОВА ПРА СУПРАЦОЎНІЦТВА З БІЗНЕСАМ І САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАЕКТЫ



**А. Павел Сяргееў ужо шмат гадоў генерыруе і ажыццяўляе ідэі дапамогі – замежныя курсы рэабілітацыі, сістэмнае навучанне валанцёраў, інклюзіўная пякарня "Пчала", IT-курсы для людзей з інваліднасцю і шмат іншых. Уся дзейнасць такога кшталту патрабуе сродкаў. З праваслаўным святаром гутарым пра рэлігійную сацыяльную дзейнасць, стасункі з прадпрымальнікамі і агульныя праблемы нашых Цэркваў у сферы дабрачыннасці ў сённяшні час.**

на староны 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кожная хвіліна – гэта магчымасць любіць Бога і бліжняга. Няма прывілеяваных месяцаў, дзе лягчэй выказваць любоў. Наша пакліканне – квітнець там, дзе Бог падрыхтаваў для нас глебу. Трэба ўзрастаць у святасці тут і цяпер, у гэтых, а не ў іншых умовах.*

*Перажываючы летнія месяцы, знаходзячыся ў водпуску і выязджаючы на канікулы, нельга ўпускаць нагоду, каб паяднацца з нашым Творцам. Неабходна заўсёды і ўсюды ісці за Хрыстом. Неабходна добра выкарыстоўваць кожны момант.*



*Дарагія Чытачы!*

*Рэдакцыйны калектыў таксама адпраўляецца на доўгачаканы адпачынак. Мы будзем вучыцца яшчэ больш любіць Бога і сваіх блізкіх, а пасля вяртання з адпачынку – бадзёрыя, поўныя сіл і новых ідэй – выкажам сваю любоў да Вас, рыхтуючы актуальныя і цікавыя матэрыялы на старонках нашай дыяцэзіяльнай газеты.*

*Жадаем усім добрага адпачынку і да сустрэчы ў верасні!*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**24 ліпеня**

***Сусветны дзень дзядуль, бабуль і старэйшых асоб.***

*Ва ўсім Паўсюдным Касцёле ў другі раз будзе адзначацца Сусветны дзень дзядуль, бабуль і старэйшых людзей. Дэвізам сёлетняй урачыстасці стане фрагмент 92-га псалма, а менавіта яго 15-ты верш: “І ў старасці прынясуць плён”.*

**4 жніўня**

***Успамін св. Яна Марыі Віянэя, прэзбітэра, заступніка святароў.***

*На працягу 35-ці гадоў Ян Марыя Віянэй супраціўляўся д'яблу, змагаючыся з яго спакусамі і адчуваючы разбуральную сілу зла абсалютна рэальным чынам. У 2010 годзе папа Бенедыкт XVI абвясціў шматгадовага пробашча парафіі Арс апекуном усіх святароў.*

**15 жніўня**

***Урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*Нарадзіўшы Хрыста, Марыя сама стала часткай Касцёла, Яго Містычнага Цела. Калі Яна была ўзятая на неба, стала знакам надзеі для ўсіх вернікаў: абяцанне жыцця ў Нябесным Валадарстве споўнілася на Ёй першай.*

**24 жніўня**

***Свята св. Барталамея, апостала.***

*Святы мае падвойнае імя. Барталамеем яго называюць тры евангелісты: Мацвей, Марк і Лука. У сваю чаргу св. Ян назваў яго Натанаэлем. Дзякуючы традыцыі, паводле якой са св. Барталамея садралі скуру, святым заступнікам яго абралі сабе мяснікі, гарбары і пераплётчыкі.*

**1 верасня**

***83-я гадавіна выбуху ІІ Сусветнай вайны.***

*Даручаем Пану Богу ў малітве ўсіх загінулых і молімся за мір у свеце. Дзень таксама з'яўляецца Сусветным днём малітвы аб ахове стварэння. Гэта магчымасць паглыбіць сваю веру ў Бога Стварыцеля і асаблівым чынам з'яднацца ў малітве і дзейнасці дзеля абароны нашага супольнага дома.*

**8 верасня**

***Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*Напрыканцы лета і на пярозе восені Касцёл жадае ўшанаваць Маці Божую, успамінаючы Яе нараджэнне. Яе з'яўленне на свет выклікае ва ўяўленні вобраз восеньскай сяўбы. Бо ў Марыі Бог даверыў зямлі каштоўнае “насенне”, якое ў будучыні прынясе плён.*

# КОЖНЫ МАЕ СВОЙ ТАБОР

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

У Старым і Новым Запавеце ў гарах адбываліся найважнейшыя падзеі ў гісторыі збаўлення. На вулканічным масіве Арарат спыніўся каўчэг, калі пачалі спадаць воды патопу; гара Морыя стала сведкам ахвяры Абрагама; на вяршыні Сінай Яхвэ перадаў Ізраілю свае запаведзі; прапаведуючы “на гары”, Езус даў людзям восем благаслаўленняў; на Аліўнай гары Сын Божы маліўся перад пакутамі, а на Галгофе былі адкуплены грахі ўсяго свету. На кожнай з гэтых вяршынь адбывалася нешта важнае для адносін паміж Богам і чалавекам. Такім чынам, можна сцвердзіць, што Бог любіць горы.

**На гары Табор у Галілеі знаходзіцца адзін з дамоў супольнасці Cenacolo, якая была заснавана ў Італіі. У гэты дом прыходзяць згубленыя і залежныя маладыя людзі, асабліва наркаманы, якія стараюцца знайсці выхад са сваіх праблем.**

Перамяненне Пана – адна з найважнейшых падзей у жыцці Езуса і цуд, які здарыўся ў прысутнасці трох апосталаў, – таксама адбылося на гары Табор. “Праз шэсць дзён узяў Езус Пятра, Якуба і Яна, брата ягонага, і павёў іх адных на высокую гару, і перамяніўся перад імі. Аблічча Ягонае заззяла, як сонца, і адзенне Ягонае стала белае, як святло” (Мц 17, 1–2).

Адно можна сказаць напэўна: у часы Езуса людзі не хадзілі ў горы дзеля задавальнення. Таму, бязумоўна, апосталы, узбіраючыся на Табор, рабілі ўсё магчымае, каб зразумець, чаму Езус вядзе іх туды. Напэўна, яны былі вельмі здзіўлены, калі Збаўца з'явіўся перад імі ў зззяючым абліччы. Тады зразумелі, што даліны, хоць зручныя і бяспечныя, не даюць магчымасці зірнуць на рэчаіснасць з іншага ракурсу. Здзіўленне апосталаў хутка перарасло ў захапленне. “Пане, добра нам тут быць. Калі хочаш, я зраблю тут тры шатры: Табе адзін, Майсею адзін і адзін Іллі” (Мц 17, 4).

У кожнага з нас ёсць свая “гара Табор”. Для адных гэта час, праведзены з блізкімі людзьмі, для іншых – рэалізацыя жыццёвага захаплення, усё тое, што дазваляе нам “перамяняцца”, а значыць быць мацней і паўней.

Людзі заўсёды шукалі ў гарах Боскі элемент. Манастыры, скіты, месцы, дзе развівалася духоўнасць, ствараліся не ў нізінах, а на горных вяршынях, часта ў надзвычай неспрыяльных умовах, завіслыя паміж небам і зямлёй, здалёк ад руціны і далёка за межамі зоны камфорту.

Хвіліны радасці і задавальнення існуюць не для таго, каб трымаць іх у сабе. Калі ў нашым жыцці ёсць нешта, што нас сапраўды прыцягвае, што прымушае пульс паскарацца, а сэрца біцца часцей, давайце пакажам гэта іншым. Навокал больш людзей, пагружаных у цемру, чым нам здаецца. Можа, якраз мая “гара Табор” прымусіць “перамяніцца” кагосьці іншага? Пётр не хацеў спускацца. Нашмат ахвотней ён застаўся б з перамененым Езусам і не думаў пра справы, што засталіся ўнізе. Але не гэта патрэбна Богу.



wikipedia.org

Гара Табор была адным з апошніх прыпынкаў Езуса перад Іерусалімам. Пасля славы, якую зведалі апосталы ў прысутнасці перамененага Хрыста, павінна было адбыцца нешта абсалютна іншае. Перамяненне Пана мусіла ўмацаваць вучняў перад прыніжэннем і ўтаймаваннем, якія павінен быў дасведчыць Езус.

Нашы “горы Табор” таксама не вечныя. Калі адчуваеш нешта пазітыўнае, добра гэта запомні. Калі надыдзе крызіс – а ён надыходзіць рана ці позна – ты будзеш ведаць, што ён таксама скончыцца.

Біблейская гісторыя пра перамяненне на гары Табор вучыць нас забіраць добры досвед у “даліны” нашага штодзённага жыцця, запамінаць і дзяліцца ім з іншымі. Тады тое, чаму мы аддаём сваё сэрца, перастане быць толькі імгненнай асалодай, а стане чымсьці, што прыносіць надзею іншым і ўмацоўвае нас саміх.

**Свята Перамянення Пана адзначаем 6 жніўня.**

# ПРА АЛКАГАЛІЗМ, БОЖЫ ДАР І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

працяг са с. 1

**Муж Людмілы, Юрый, ужо 22 гады з'яўляецца цвярозым алкаголікам і дапамагае іншым залежным людзям. Мы папрасілі Людмілу распавесці пра яе шлях як сузалежнай асобы, запыталі пра аспект вернасці, пра захаванне сябе і пра парады для сузалежных жанчын.**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*

***– Азіраючыся на ўласнае сямейнае жыццё – да сутыкнення з залежнасцю і пасля, – як бы Вы апісалі свой шлях?***

– Алкаголь як праблема для мяне адсутнічаў. Калі я глядзела на людзей пад магазінам, мне здавалася, што яны проста слабавольныя і не могуць прымусіць сябе адмовіцца.

Мой тата, ваенны урач, відавочна, ведаў праблему алкагалізму і вельмі руплівa працаваў над дзецьмі, асабліва над старэйшым сынам. У нас заўсёды была інфармацыя, што алкаголь – гэта шкода, таму ў сям'і залежнасцей не было. Я вельмі ўдзячна бацькам, што вырасла ў здаровай, цвярозай атмасферы.

У студэнцкія часы і пасля сканчэння лінгвістычнага ўніверсітэта, калі я працавала тут, у Гродне, алкаголь прысутнічаў, але ненавязліва. Я не ведала, што такое алкагалізм.

Калі выйшла замуж, з Юрыем мы хадзілі на розныя мерапрыемствы, сустракаліся з сябрамі, было весела, цікава. У прынцыпе, усё было больш-менш нармальна, пакуль я не заўважыла, што пасля кожнага свята мужу хочацца працягу. Раніцай ён трымаўся, не дазваляў сабе, але вечарам ужо шукаў кампанію, цягнуў мяне да сяброў, і ўсё расцягвалася на некалькі дзён.

Так за прыблізна пятнаццаць гадоў актыўнага ўжывання маім мужам алкаголю я зразумела, што ён залежны. Потым даведалася пра яго мінулае і ўсвядоміла, што папала. Шмат было думак. Хацелася ўсё кінуць і адысці. Але стрымлівала тое, што мы павянчаліся, што прагучала абяцанне быць разам у радасці і ў горы, у бядзе і ў хваробе.

Прыйшоў нейкі момант, калі Юрый сам сказаў: "Я алкаголік". Канешне, мне стала яшчэ горш. Я пачала шукаць разнастайных урачоў, звярталася за дапамогай у Мінск да вядомых нарколагаў – грошы зніклі, а выніку не было.

Тут хачу зрабіць націск на тым, што хвароба прагрэсіравала, і з майго боку прысутнічала пэўнае памылковае мысленне. Калі муж выходзіў з запою, прасіў прабачэння, абяцаў. Здараліся месяцы, калі ўсё было добра. Я супакойвалася, спадзявалася, што, нарэшце, так яно і будзе. Аднак дзесьці ў глыбіні сэрца ўсё ж чакала, калі зноў пачнецца. І пачыналася, і працягвалася ўсё даўжэй, усё цяжэй. Ён ужо не мог сам выходзіць з запою, патрэбна была медыцынская дапамога, капельніцы, бальніца. Я настолькі апусціла рукі, што чакала, калі ўсё гэта скончыцца. Ведала шмат выпадкаў з сем'яў маіх сяброў, знаёмых і бачыла, што заканчваецца ва ўсіх аднолькава.

З 2000 года пачалася актыўная фаза выздараўлення мужа. Мы лічым, што гэта быў Божы дар, дар ад Маці Божай Чанстахоўскай. Тады Юрый упершыню прыйшоў на сустрэчу групы ананімных алкаголікаў, і Гасподзь вёў яго. Затым уцёк адтуль, але Гасподзь прывёў яго назад і сказаў, што "вось тваё месца". Дзякаваць Богу, 22 гады прайшло. Напэўна, муж за гэты час меў жаданне выпіць, не магу сказаць, бо розныя настроі, думкі былі... Але Бог трымаў яго на гэтым шляху. І Юрый такі чалавек, які, атрымаўшы дар, тут жа павінен быў ім дзяліцца. Пачынаючы з 2000 года, ён гэта робіць.

Тыя метады, якія мы папярэдне выкарыстоўвалі – між іншым, падшыванне, кадзіраванне, – не дапамагалі. Чалавек заставаўся цвярозым, але неверагодна агрэсіўным і проста чакаў моманту, калі можна будзе далей працягваць піць. Мы жылі з вялізнымі складанасцямі і псіхалагічнага, і матэрыяльнага характару. Дар, які атрымалі ў 2000 годзе, цалкам перавярнуў наша жыццё. Юрый пачаў вучыцца, як жыць цвярозым, без медыкаментознай альбо наркалагічнай дапамогі звонку.




Адметным момантам у нашай сям'і з'яўляецца таксама тое, што не я прывяла мужа да цвярозасці, а ён прыйшоў да яе самастойна і прывёў мяне да разумення алкагалізму. Я атрымала шмат інфармацыі пра тое, што гэта за хвароба, як з ёю жыць.

Пасля таго, як першы раз трапіла ў групу Ал-Анон, калі прачытала літаратуру пра сузалежных людзей, я зразумела, што тое, чым жыла вось гэтыя 14-15 гадоў, было грубейшай памылкай: і патакаць, і выліваць гарэлку ці наадварот прынесці яму, каб замаўчаў, і мець пачуццё віны, якое залежны чалавек пастаянна гадуе ў сузалежным. Гадуе і робіць яго вельмі моцным: "Я п'ю, таму што ты дрэнная".

І хоць я ўсюды прадстаўляюся як сузалежная, хвароба мужа навучыла мяне быць незалежнай. Я, перш за ўсё, даведалася, што я чалавек і што ні ў чым не вінаватая, што гэта яго хвароба, а не мая. Я ж, будзем казаць так, сапраўды сузалежная, іду паралельнай дарогай. Раз я побач з ім, то выбрала гэты шлях. Іду і стараюся быць незалежнай, стараюся мець і маю свае інтарэсы, свае хобі, захапленні, а таксама штодзённа малюся аб цвярозасці і для мужа, і для ўсёй роднай краіны.

***– Як думаеце, ці магчыма без удзелу ў групе для сузалежных асоб, самастойна прыйсці да ўсведамлення сваёй незалежнасці?***

– Магчыма, але трэба, каб нехта расказаў табе пра гэта, трэба мець гэтую ўсведамленасць. Сузалежны чалавек павінен ведаць, што ні ў чым не вінаваты, што не мае ніякага ўплыву на ўжыванне, што калі залежны п'е, то не таму, што ты вінаваты, а таму што ён алкаголік.

***– Улічваючы момант вернасці чалавеку да канца і аспект клопату пра сваё здароўе ды бяспеку, як прыняць правільнае рашэнне: застацца ці адысці?***

– Гэты момант вельмі індывідуальны, і жанчына сама павінна вырашыць.

Кожны алкаголік п'е па-рознаму. Ёсць людзі, якія выпіваюць і буяняць. Гэта вельмі страшна, і тут нават святар кажа, што калі муж пагражае табе і дзецям, то трэба адысці. Маецца не ўвазе не развод, а сепарацыя. У маім выпадку такога не было. Муж ніколі не біўся. Неяк я спрабавала розныя метады тыпу хаваць алкаголь, але калі ён адштурхнуў мяне, зразумела, што ў такім стане муж не адказвае за свае паступкі і можа здарыцца нейкая бяда, таму, ахоўваючы сябе, не была агрэсіўнай.

Існуе паняцце дна, калі чалавек ужывае. Уся гісторыя алкаголіка – як ліфт, які едзе ўніз, на могілкі. Першы званочак, дзявяты паверх – звольнілі з працы. Тут спыніўся, знайшоў новую працу і перастаў піць. "Падумаеш, страціў працу". Далей – страціў сям'ю. Згубіў дзяцей, блізкіх. Так чалавек усё губляе і ў выніку даходзіць да дна. Ёсць шанс, што ён ад гэтага дна адаб'ецца, нават калі застаўся адзін, а калі мае дастаткова сіл і разумення, здолее падняцца на дах. Толькі сам і адначасова пры дапамозе спецыялістаў і пры дапамозе сябра. На жаль, у нас не так шмат ёсць цэнтраў, дзе прафесійна дапамагаюць.

***– Як не здацца, а захаваць сябе і падтрымаць мужа?***

– Юрый стараўся: і кадзіраваўся, і падшываўся, і чаго толькі не рабіў, але алкагалізм вельмі каварная рэч. Як любая хвароба, ён мае актыўную стадыю – гэта гора і бяда. Затым наступае рэмісія, і тады трэба дзесьці дапамагчы падтрымкай, словам. Так я разважаю цяпер, з пазіцыі таго, што ведаю. А звычайна што робяць жанчыны, што я рабіла: крычала, сварылася, калі можна было дастукацца, і атрымлівала такі ж негатыўны адказ.

Калі казаць пра парады, то варта шукаць дапамогі. Раней гэтай дапамогі амаль не было: "Ідзіце да нарколага, станавіцеся на ўлік", – а цяпер алкагалізм зарэгістраваны як хвароба. Сузалежнасць таксама лічыцца хваробай, і можна, між іншым, знайсці працу з псіхолагам.

Жанчына цяпер, прынамсі, у нас, у Гродне, таксама можа атрымаць дапамогу ў групе для сузалежных асоб, дзе сустракаюцца такія ж людзі, у асноўным жанчыны, якія дзеляцца сваёй бядой і досведам. Гэты досвед дапамагае пачуць, што рабіла другая жанчына ў такім палажэнні.

Я лічу, што сузалежны чалавек павінен знайсці сваё "я" і развіваць яго ў сабе. Вельмі часта залежны мужчына п'е ўжо шмат гадоў і нічога ў яго не адбываецца, а сузалежная жанчына адыходзіць з жыцця, таму што ўсё прысвяціла яму, увесь час займалася яго праблемамі, а сабой – не. Ёсць такое паняцце, як жорсткая любоў, тобок: "Я цябе люблю, але ты жыві сваім жыццём, калі хочаш піць – пі, а мяне гэта не датычыць". Важна ўсвядоміць, што ты не можаш змяніць алкаголіка. Часам гавораць: "Вось такая жанчына! Яна яго ўратавала". Магчыма, яна садзейнічала гэтаму, але выратаваць сябе можа толькі сам залежны чалавек.

Таксама важнай з'яўляецца павага адзін да аднаго. Ты ведаеш, што ён мае такія ці іншыя звычкі – трэба іх паважаць. Зразумела, што алкагалізм, канешне, не, але калі ён мае нешта, што яму падабаецца, няхай ён гэта развівае. Калі яму падабаецца штосьці чытаць ці глядзець, напрыклад, хакей, футбол, або ездзіць на рыбалку, няхай ён гэта робіць, калі такія моманты не прыносяць шкоды для сям'і. То-бок, трэба паважаць яго звычкі, мець свае і такім чынам жыць. Без ідэалаў, таму што ідэалаў няма.

***– Як паводзіць сябе жонцы ў плане прысутнасці алкаголю на святах, калі яна ведае, што яе муж залежны?***

– Няма стопрацэнтнай гарантыі, што чалавек будзе цвярозым працяглы час. У галаве спрацоўваюць гэтыя механізмы: хімія, кроў і г. д., таму залежны чалавек не мае права падняць чарку. Тут таксама сузалежныя маці, жонкі дапускаюць памылкі: "Ну як так?! Ты ўжо выздаравеў, ты не алкаголік. У дачкі вяселле – што ж, ты не вып'еш бакал шампанскага за дачку? Выпі". Ні ў якім разе, таму што ты ўжо больш не ўбачыш гэтага вяселля. Будзеш і заўтра, і паслязаўтра ляжаць пад сталом. Тут важна, каб блізкія зразумелі: калі чалавек усвядоміў, што ён алкаголік, ён да канца жыцця не мае права падняць чарку.

Справа ў адсутнасці інфармацыі для жонкі, для маці. Мы ніколі не гаворым "былыя алкаголікі". Гэтак жа, як чалавек з любой хваробай ведае, як сябе паводзіць, так і з алкагалізмам ведае, як паступаць. У сям'і неабходна проста пазбягаць вялікіх свят, не выкарыстоўваць дома алкаголь.

**АКТУАЛЬНА**

*Ватыканскае радыё*

### Падрабязнасці беатыфікацыі Яна Паўла І

Зала Друку Апостальскай Сталіцы абнародавала праграму ўрачыстасцей з нагоды беатыфікацыі папы Яна Паўла І, якая адбудзецца ў нядзелю 4 верасня 2022 года на плошчы св. Пятра ў Ватыкане.

Літургія з абрадам беатыфікацыі, якую ўзначаліць папа Францішак, распачнецца ў 10.30 па рымскім часе. Просьбу аб абвяшчэнні Яна Паўла І благаслаўлёным зачытаюць пастыр яго роднай дыяцэзіі Белуна-Фельтрэ біскуп Рэната Марангоні, пастулятар беатыфікацыйнага працэсу кардынал Бэньяміна Стэла і віцэ-пастулятар Стэфанія Фаласка. Днём раней, у суботу 3 верасня, у базіліцы св. Яна на Латэране адбудзецца малітоўнае чуванне пад кіраўніцтвам кардынала Анджэла Дэ Данаціса, Папскага вікарыя для Рымскай дыяцэзіі.

### Святы Пасад з клопатам пра наш супольны дом

Святы Пасад далучыцца да Канвенцыі па клімаце і Парыжскай дамовы з намерам дапамагаць эфектыўна і адэкватна адказваць на выклікі, якія змена клімату кідае чалавецтву і нашаму супольнаму дому.

Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры ААН мансеньёр Джардана Кача перадаў Генеральнаму сакратару ААН Антоніу Гутэрышу дакумент аб далучэнні Святога Пасаду – ад імя і па даручэнні Дзяржавы Ватыкан – да Рамачнай канвенцыі ААН аб зменах клімату.

Зала Друку Апостальскай Сталіцы паведаміла, што Святы Пасад мае намер зрабіць уклад і аказваць маральную падтрымку супрацоўніцтву ўсіх дзяржаў.

### Умацоўванне сувязей паміж католікамі і пяцідзесятнікамі

З нагоды 50-годдзя з дня заснавання Камісіі па каталіцка-пяцідзесятніцкім дыялогу Святы Айцец заклікаў да аднаўлення супольных высілкаў у абвяшчэнні Евангелля.

Папа скіраваў кароткае пасланне да ўдзельнікаў пленарнага пасяджэння Камісіі, якое праходзіла ў Рыме пад эгідай Дыкастэрыі па спрыянні хрысціянскаму адзінству. Ён заўважыў, што на працягу апошніх 50-ці гадоў гэтая структура, дзякуючы дыялогу і рэфлексіі, супольна працавала над умацаваннем "сувязей сяброўства, салідарнасці і ўзаемнага разумення" паміж католікамі і пяцідзесятнікамі.

### Малітоўныя інтэнцыі

#### Жнівень

**паўсюдная**

Молімся, каб малыя і сярэднія прадпрымальнікі, моцна пацярпелыя ад эканамічнага і сацыяльнага крызісу, знайшлі рэсурсы, неабходныя для працягу сваёй дзейнасці на службе грамадству, у якім жывуць.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб шчодрым духоўным плёне для пілігрымаў і тых, хто перажывае рэкалекцыі.

#### Верасень

**паўсюдная**

Молімся, каб смяротнае пакаранне, якое пагражае недатыкальнасці і годнасці асобы, было адменена ў заканадаўстве ўсіх краін свету.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб адважным трыванні ў веры і духоўным аднаўленні для свецкіх працаўнікоў Касцёла.

# З МАРЫЯЙ ДА СУПАКОЮ І ЕДНАСЦІ


Сёлетнія ўрачыстасці ў Тракелях сабралі тысячы пілігрымаў з краіны і з-за мяжы

працяг са с. 1

Прэс-служба Гродзенскай дыяцэзіі

Пілігрымы ў санктуарыі асаблівым чынам маліліся аб міры ва ўсім свеце, найперш у тых краінах, дзе адбываюцца канфлікты і ідуць войны, а таксама аб адзінстве ў сваіх сем'ях, у грамадстве і ў кожным народзе. Праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці прысутныя дзякавалі Богу за свае сем'і, у якіх чалавек прыходзіць у свет і сталее, выхоўвае рысы характару і вучыцца жыццю. Прасілі, каб Маці Божая аберагала ад пагроз, якія нясе сучасны свет.

Апоўначы адбылася св. Імша пастэрка, якую ўпершыню ў якасці Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага ўзначаліў арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. Літургія традыцыйна пачалася працэсіяй па Тракелях з копіяй абраза Маці Божай.

Другі дзень дыяцэзіяльных урачыстасцей пачаўся з аднаўлення сужэнскіх абяцанняў. У абрадзе ўдзельнічала больш за 60 пар. Як маладыя, так і тыя, хто разам ужо некалькі дзесяткаў гадоў, сабраліся, каб зноў скласці прысягу любові, вернасці, павагі і жыцця разам да смерці ў згодзе і еднасці.

Затым адбылася св. Імша, цэлебраваная біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. У гаміліі арцыбіскуп-эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч закрануў актуальную тэму захавання міру. Ён адзначыў, што праблема міру існуе ад пачатку стварэння і пачалася ад забойства Каінам свайго брата Авеля.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ІТАЛІЯ.** У італьянскім Турыне прайшоў другі этап 44-ай Агульнаеўрапейскай моладзевай сустрэчы, арганізаванай экуменічнай супольнасцю Тэзэ. Першы этап форуму праходзіў у анлайн-фармаце з 28 снежня 2021 па 1 студзеня 2022 года. Фізічна сабрацца разам маладым людзям з усёй Еўропы тады, як і годам раней, перашкодзіла пандэмія каранавіруса. Цяпер жа іх прымаюць сем'і і парафіі Турына. Сустрэча адбывалася ў абмежаваным фармаце: на 7 ліпеня ў буйнейшы горад П'емонта прыбылі ўсяго 150 валанцёраў і каля тысячы ўдзельнікаў. Для параўнання, у папярэдняй сустрэчы ў Вроцлаве ўдзельнічала 15 тысяч чалавек. Праграма форуму ўключала ў сябе супольную малітву, круглыя сталы, наведванне выстаў, музеяў, важных гістарычных і рэлігійных месцаў.

**ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ.** Карэйскія біскупы асудзілі законапраект аб эўтаназіі, які нядаўна паступіў у парламент. Прапанова прадугледжвае легалізацыю дапамогі ў суіцыдзе ў выпадку невылечнай хваробы. Арцыбіскуп П'ер Чунг Сун-Тэйк выступіў з заявай, у якой адназначна асудзіў законапраект. "Касцёл нагадвае, што святасць чалавечага жыцця непарушная, як іншымі, так і самім сабой, да апошняй хвіліны", – напісаў старшыня Дыяцэзіяльнай камісіі жыцця. Ён падкрэсліў, што замест таго, каб скончыць жыццё, трэба шукаць спосабы паменшыць невыносныя пакуты, якія адчуваюць невылечна хворыя пацыенты.

**НІКАРАГУА.** Камуністычныя ўлады Нікарагуа выслалі з краіны манахінь з Кангрэгацыі Місіянерак Міласэрнасці. Рэжым Даніэля Артэгі ў рамках дзеянняў супраць Касцёла пазбавіў манахінь юрыдычнай аўтаноміі і забараніў усякую дзейнасць. Місіянеркі трымалі ў краіне дом для сірот, яслі для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, даглядалі старых. Цяпер іх прынялі ў дыяцэзіі Тыларан Ліберыя ў Коста-Рыцы, якая прапанавала сёстрам дапамогу.

**РАСІЯ.** У выдавецтве "Нестар-Гісторыя" выйшла навуковая манаграфія "«Graduale Romanum» 1974 г. Святочныя спевы Імшы: ад Сярэднявечча да Найноўшага часу. Пераклад, гісторыка-культурная інтэрпрэтацыя і літургічнае асэнсаванне сакральных тэкстаў. – Том 1. Ад Адвэнту да Пяцідзесятніцы", забяспечаная ілюстрацыямі і нотамі. Паводле інфармацыі, размешчанай на сайце выдавецтва, дадзеная манаграфія ўяўляе сабой першую спробу перакладу на рускую мову асноўных спеваў "Graduale Romanum" выдання 1974 года ў кантэксце міждысцыплінарнага падыходу да аналізу сакральных тэкстаў, якія былі практычна нязменныя з перыяду Сярэднявечча да нашых дзён.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

*Трокели – место почитания Марии… В июле месяце каждого года у меня в планах всегда было посещение такого спокойного и такого родного места. Посещение дома, где наша Мама. Каждый год до пандемии туда стремились десятки пилигримок из разных уголков нашей епархии. И на 2 года все заморозилось… Когда пандемия утихла, снова начали организовывать паломничества, не так много, как было раньше, но уже хорошо.*

*В этом году в Трокели я приехала, а не пришла, так как пешего паломничества из Гродно не было.*

*На дороге вдоль санктуария расположилось множество палаток, где продавали леденцы-петушки (как в детстве), другие всевозможные сладости, игрушки и, конечно же, религиозную литературу, иконы. Встречались даже специи и валенки. А также маленький фудкорт, где можно было подкрепиться.*

*Прогулялась по территории: всё красиво, ухожено, много аллей. Повсюду расположились маленькие алтарики в виде домиков с изображением Матери Божьей из разных уголков Беларуси. О многих образах Марии я даже не знала. Много цветов, лавандовые кусты, скамейки около пруда. В одном из водоёмов посредине расположена фигура св. Христофора, покровителя водителей и моряков, её освятили накануне.*




*Появились стояния Крестного пути. Удивило то, что с обратной стороны каждого стояния висит табличка с фамилией спонсора. Под навесом организовали выставку работ художников, которые, как узнала, писали свои картины на территории санктуария. Можно сказать, их вдохновляла Мария.*

*Стал доноситься звук песен под гитару. На велосипедах, автобусах, машинах, пешком в группах и индивидуально приближались пилигримы. Сколько радости было в их глазах, сколько счастья, что вновь пришли поклониться Небесной Маме. Паломники молились за мир и давали своё свидетельство веры.*

*В день прихода пилигримов была организована детская площадка с батутами и развлечениями, ведь Трокели – это санктуарий семей. Важно занять и самых маленьких почитателей Матери Божьей.*

*Образовалась длинная очередь в костёл к образу, и людей не становилось меньше: вновь прибывали паломники. Также были длинные очереди к исповеди. Священников было не так много, как раньше, пришлось стоять практически всю св. Мессу для пилигримов.*

*Довелось наблюдать красивый закат. Когда начало темнеть, от Пасхала верующие зажгли свои свечи, и маленькие огоньки распространились по всей территории вокруг костёла. Начался и закончился дождь. В 23.00 выдвинулась процессия по Трокелям. Впереди огромный светящийся крест, у духовенства факелы в руках, во главе также копия образа Трокельской Марии. Девочки в белых платьях посыпали дорогу цветами. Интересно смотрелось, как в веночках на их головах мелькали огоньки.*



# КАСЦЁЛ СВЯТОЙ ТРОЙЦЫ Ў РОСІ. ШЭДЭЎР ІТАЛЬЯНСКАЙ СКУЛЬПТУРЫ


catholic.by
Знешні выгляд парафіяльнага касцёла

працяг са с. 1

*Андрэй Вашкевіч*

Назва гарадскога пасёлка Рось, безумоўна, паходзіць ад назвы ракі, на берагах якой ён размяшчаецца. А сама назва ракі Рось, як лічаць некаторыя даследчыкі, мае ў сваёй аснове старажытны індаеўрапейскі корань "рос", што абазначае "сыры", "вільготны". Цяжка нават сказаць, колькі народаў жыло на берагах гэтай невялікай рэчкі. Вядома толькі, што яна з даўніх часоў была важным транспартным шляхам. Тут нярэдка знаходзяць старажытнарымскія манеты, якія сведчаць, што на Росі размяшчаліся гандлёвыя пункты, куды прыбывалі купцы з вельмі далёкіх краёў.

Першая згадка пра Рось у дакументах адносіцца да 1491 года. Праз некаторы час у мясцовасці з'явілася праваслаўная царква. Заснавалі яе прадстаўнікі роду Хадкевічаў, якія тады былі вялікімі прыхільнікамі праваслаўя і заснавалі вядомы манастыр у Супраслі недалёка ад Беластока. Хадкевічы неўзабаве прынялі каталіцтва, і недзе пад канец XVI стагоддзя ў Росі з'явіўся таксама касцёл. Ад фундатараў мясцовыя ксяндзы (плябаны) атрымалі маёнтак Гарасімаўшчына, дзе і жылі, наведваючы касцёл толькі для службаў. У XVII – першай палове XVIII стагоддзя Россю валодалі Ракоўскія, Агінскія, Сапегі. Апошнія нават планавалі збудаваць для манаскага ордэна піяраў мураваны касцёл і кляштар. Аднак да будоўлі справа не дайшла.

У 1752 годзе Тэрэза Сапега выйшла замуж за Яўхіма Караля Патоцкага, і так Рось на доўгі час стала ўласнасцю Патоцкіх. Менавіта яны і ўзяліся за пабудову муранай святыні. Будаваў яе галоўным чынам Пётр Патоцкі – дыпламат, ваенны дзеяч, гарачы прыхільнік Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Завяршыў будаўніцтва святыні яго сын Фелікс.

12 ліпеня 1808 года касцёл асвяцілі. Гэта была бязвежавая пабудова ў класічным стылі памерам 33 на 14 метраў. Сцены белага колеру былі пакрытыя гонтам, пафарбаваным у чырвоны колер, таксама чырвонымі былі галоўныя дзверы святыні. Унутры касцёл адпавядаў модным тады прынцыпам класіцызму. Асабліва прыцягвала ўвагу фігура сядзячага на камяні Езуса Хрыста ў натуральны рост, змешчаная ў галоўным алтары.

Фелікс Патоцкі памёр у 1811 годзе, а яго жонка Соф'я з роду Пацаў праз некалькі гадоў выйшла замуж за генерала Ксаверыя Несялоўскага. Праўда, Соф'я Несялоўская ізноў хутка аўдавела, і паколькі яе дочкі памерлі маладымі, прысвяціла рэшту свайго жыцця клопату за касцёлам, аднаўляла яго пасля пажару ў 1852 годзе.


catholic.by
Саркафаг графіні Соф'і Несялоўскай

У 1856 годзе ва ўзросце 74 гады Соф'я памерла. Яе пляменніца Людвіка Пац, якая даглядала ўладальніцу Росі апошнія гады, вырашыла ўшанаваць сваю цётку і замовіла ў Італіі ў майстра Жуліа Масчэцці цудоўны мармуровы саркафаг. Сёння гэты саркафаг – мабыць, самая прыгожая мармуровая скульптура ва ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі. Вось як апісвае яе Святлана Воцінава, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць": "Соф'я Несялоўская толькі-толькі заснула. Прычым выпадкова, бо, мяркуючы па вышыні абляманай ці то бедфордскімі, ці то лільскімі, ці то малінскімі карункамі падушкі, збіралася прылегчы ненадоўга. Нечым, відаць, стомленая, але гэта якраз тая стомленасць, якая надыходзіць пасля ўсведамлення важкасці зробленай працы. Яшчэ прыкмета, што толькі прылегла: шаль з галавы не зняла. Накрылася пледам з махрамі. Паднесла руку да сэрца. Тонкую, у ажурнай манжэце".

З тых дзён, як назаўжды заснула апякунка касцёла ў Росі графіня Соф'я Несялоўская, прайшло больш за паўтары стагоддзі, а людзі дасюль аддаюць у святыні пашану Богу і задумваюцца над сэнсам жыцця, гледзячы на цудоўны саркафаг графіні.


grodnensis.by

*Шествие сопровождал оркестр.*

*Евхаристию возглавил архиепископ Иосиф Станевский. Участники Мессы особенно молились о семьях нашей страны, о несчастливых парах, прося Марию исцелить их отношения. Литургию завершил праздничный фейерверк.*

*Уже в воскресенье состоялся обряд обновления супружеских обещаний. Собралось больше 60-ти пар разного возраста. Как же красиво они танцевали, смотря друг другу в глаза! После церемонии пары могли взять на память свидетельство.*

*Главная Месса собрала ещё больше почитателей Марии. На этот раз уже епископ Олег Буткевич отметил: "Спасибо, Боже, за погоду: что не жарко и солнечно, а главное – нет дождя". За время, проведённое в Трокелях, дождь длился всего 10 минут – Мария "укрывала нас своим плащом".*

*Ежегодно до пандемии после св. Комунии верующие пели песню «Jesteś królem», и каждый поднимал руки вверх на хвалу Бога. Эта традиция осталась прежней. Ощущалось единство!*

*В эти 2 дня было много спецэффектов: летящие фонарики, салют, оркестр, голуби...*


grodnensis.by


grodnensis.by

*Обрадовало, что люди охотно принимали участие в "Ярмарке помощи девочке Рите", которая страдает от страшного диагноза.*

*После окончания официальной части многие остались в санктуарии, чтобы в тишине помолиться в костёле, купить на память образ или книгу, а для детей – леденцы-петушки.*

*Благодарю Бога за то, что есть возможность быть и молиться у стоп Матери Божьей Трокельской!*

# АДПАЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ І ЦЕЛА



*Яна Чайко*

Пасля двух гадоў каранавірусных абмежаванняў жыццё пачало вяртацца ў звычайнае рэчышча. Стужка навін у Інстаграме і Фэйсбуку "дакавідная": частка знаёмых адпачывае на моры, частка здала экзамены і пачала адпачынак, шмат хто ездзіць на вёску, астатнія працуюць, чакаючы свайго водпуску. Але была таксама пара асоб, якія замест самалётаў выбралі выгодная сандалі, а замест мора – Будслаў. І, шчыра кажучы, гэтым людзям я нават зайздросціла.

Першы раз я пайшла ў Будслаў, калі мела 14 гадоў. Мне было вельмі цікава: як можна ісці тыдзень і не стаміцца? Але дзень за днём, калі ўжо падавалася, што сіл больш няма, яны з'яўляліся. Не перашкаджалі ані дождж, ані сонца. Прыйшоўшы ў Будслаў, я зразумела: на гэтым пілігрымкі для мяне не скончацца.

Ужо праз год да Маці Божай Будслаўскай мы пачалі хадзіць з Ліды. Кожны год новыя інтэнцыі, новы дырэктар пілігрымкі, новыя людзі, новыя пачуцці ды эмоцыі падчас шляху. Нязменнай заўсёды была дарога і запал унутры кожнага пілігрыма.

Апошні раз хадзілі туды перад пандэміяй, гэта была юбілейная пілігрымка. Так цяжка ісці, як тады, не было ніколі. Але для сябе я ў той год зразумела, што менавіта цяжкасці паказваюць чалавека сапраўдным, адкрываюць яго знутры. Мінула ўжо тры гады, а мы з сябрамі да сёння ўспамінаем апошнія 9 дзён на шляху з Ліды да Будслава.

Акрамя Будслава, за маімі плячыма некалькі пешых пілігрымак у Тракелі і Рось, усяго іх больш за дзесяць. Але кожны кіламетр на шляху да санктуарыя заражае на цэлы год. З пілігрымкі вяртаешся ўжо іншым чалавекам. Я так і не разгадала таямніцу: як можна ісці так шмат, але пры гэтым заўсёды мець сілы крочыць далей і хацець зноў вяртацца?

Пілігрымка – гэта цудоўны час. Хто быў, той ведае. А таму, хто яшчэ не быў, жадаю схадзіць. Тыдзень у пілігрымцы варты таго, каб выдаткаваць на яго водпуск.

# "ГАЛОЎНАЕ – БЫЦЬ СУМЛЕННЫМ".

## РАЗМОВА ПРА СУПРАЦОЎНІЦТВА З БІЗНЕСАМ І САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАЕКТЫ

працяг са с. 1

**Размаўляў Арцём Ткачук**

***– Колькі праектаў атрымалася ажыццявіць за Вашу практыку?***

– Цяжка назваць дакладную колькасць. Можа, 10-20. У Мінску я заснаваў брацтва Іаана Багаслова. Яно пачалося з двух, а пазней у нас стала 200 валанцёраў.

***– У царкоўных колах ёсць такая тэндэнцыя, што пакуль справамі займаецца іх пачынальнік – праект жыве. Не стае пачынальніка – праект паволі затухае.***




**А. Павел Сяргееў** – праваслаўны святар, іерэй, клірык Беларускай Праваслаўнай Царквы. Заснавальнік валанцёрскага брацтва Іаана Багаслова ў Мінску. Кіраваў аддзеламі па дабрачыннасці і сацыяльным служэнні Гродзенскай і Слуцкай епархій.

– Вядома, сакрэт не ў тым, каб прыдумаць праект і зрабіць яго, а ў тым, каб ён існаваў. Для гэтага неабходны менеджмент, важна прапісваць бізнес-працэсы, ствараць інструкцыі, каб справу можна было пазней перадаць іншаму менеджэру. Дзякуючы гэтаму наступны чалавек зможа працягваць ініцыятыву. Калі гэтую функцыю выканаць, то праект будзе жыць. Аднак часта ў ініцыятывах такога не хапае.

***– А як з Вашымі пачынаннямі? Жывуць?***

– З нядаўніх праектаў – арганізацыя курсаў праграміравання для людзей з інваліднасцю ў Гродне. Цяпер я ўжо пераехаў у Мінск, але гэты праект існуе і дзейнічае. Ён быў перададзены Сабору Усіх Беларускіх Святых. У верасні будзе наступны набор.

Праблема ў тым, што часта людзі, якім перадаюцца праекты, не маюць патрэбнай кампетэнцыі. Яны могуць не мець адпаведнай адукацыі ці вопыту ў менеджменце. Таму нават з прапісанымі працэсамі справы завальваюцца. Лічу, што для Царквы, як і любой грамадскай арганізацыі ўвогуле, трэба рыхтаваць кадры. Я б прапанаваў, каб у каталіцкіх і праваслаўных семінарыях рыхтавалі не толькі багасловаў, але таксама давалі азы менеджмента, псіхалогіі кіравання. Гэта б дапамагло рыхтаваць эфектыўных пастыраў у жыцейскіх, сацыяльных справах.

Было б выдатна, каб Праваслаўная і Каталіцкая Цэрквы разам рабілі добрыя справы. Гэтага, напэўна, у нас не хапае. Хоць мы і сябруем, маем змешаныя сем'і, молімся адзін за аднаго, ужо даўно пара займацца дабрачыннасцю супольна.

***– Як Вы шукалі сродкі на свае праекты? Як выглядае баланс прыватных ахвяраванняў і дапамогі ад бізнесу?***

– Раней гэта былі фонды: міжнародныя праграмы, праграмы ЕС, Расіі, Амерыкі. Да гэтага дадаваўся краўдфандынг *(ахвяраванні людзей – заўв. рэд.)* – ён дапамагаў на сістэмныя рэчы (абсталяванне, мэбля). Бізнес больш дае на розныя падарункі, рэчы для заняткаў, але не дае на навучанне валанцёраў.

***– Бізнес ахвяруе на тое, што можна сфатаграфаваць?***

– Так. На тое, з чаго можна зрабіць справаздачу. Бізнес дае на вельмі зразумелыя рэчы, аднак справы, звязаныя з навучаннем, павышэннем кампетэнцыі валанцёраў, такія больш складаныя праекты бізнесу складана зразумець. Таму на гэта ахвяруюць фонды і грантавыя праграмы.

Вось, напрыклад, тыя ж курсы праграміравання для людзей з інваліднасцю – там спрацаваў краўдфандынг. Мы напісалі артыкул на dev.by *(інтэрнэт-выданне пра IT-індустрыю ў Беларусі і свеце – заўв. аўт.)*, і пасля гэтага людзі пачалі ахвяроўваць, далучацца да нас. Тут спрацавалі СМІ, зразумелая і хвалюючая ўсіх мэта – і мы разам зрабілі гэты праект.




Айцец Павел падчас адной з дабрачынных акцый

***– Якія матывацыі ў бізнесу дапамагаць царкоўным сацыяльным праектам? Гуманнасць, вера, дапамога для галачкі?***

– Сустракаецца і такое, і такое. Ёсць, канешне, пытанні, звязаныя з падаткамі, бо існуюць паслабленні ў выглядзе змяншэння падатковай базы – ахвяраванні можна запісаць за выдаткі.

З іншага боку, бізнес – гэта ж людзі. Дырэктары кампаній таксама могуць быць прыхаджанамі. У іх таксама ёсць дзеці. Быў выпадак, калі я сустракаўся з адным бізнесмэнам і ў яго аказалася дзіцё з інваліднасцю. Калі ён пачуў заклік аб дапамозе, адразу адгукнуўся. "Гэта і мая праблема, я адчуваю адказнасць", – казаў ён. Таму бывае па-рознаму.

Бізнес, дарэчы, лёгка дапамагае матэрыяламі. Калі гэта дрэваапрацоўка, яны даюць, напрыклад, піламатэрыялы. Будаўнічыя кампаніі прадастаўляюць супрацоўнікаў. Стратэгія тут такая: падумаць над кожным накірункам і над тым, хто можа з гэтым дапамагчы. Дзесьці бізнес, дзесьці прыхаджане, дзесьці фонды.

***– У адносінах Царква-бізнес існуе нотка ліслівасці. Царкоўныя ўстановы любяць "заігрываць" з багатымі, неяк сябраваць дзеля дапамогі. Як Вам бачыцца гэтая матэрыя?***

– Нажом можна рэзаць хлеб, капіе *(праваслаўная літургічная прылада; сімвал дзіды, што прабіла бок Езуса – заўв. аўт.)* можна выкарыстоўваць для бяскроўнай ахвяры, а яшчэ гэтым можна забіць. Так жа і з грашыма – гэта інструмент. Мы разумеем, што ёсць шмат людзей, якія не вытрымалі такога спакушэння. Для кагосьці кантакт з грашыма можа стаць плачэўным. Аднак Хрыстос кажа: "Я перамог свет, не бойцеся". Таму калі разважаць, думаць, маліцца, чытаць Евангелле, то не згубіш арыенціры.

***– Можа, у Вас ёсць свой набор правіл супрацоўніцтва з бізнесам у гэтым кантэксце? У плане ўзгаданай ліслівасці, пошуку нармальнага балансу стасункаў.***

– Галоўнае – быць сумленным. Ставіцца да грошай, якія табе далі, з адказнасцю і выдаваць іх на тыя патрэбы, на якія яны былі дадзены. Справаздачнасць і ўсе дзеянні павінны быць максімальна празрыстымі: чэкі сфатаграфаваў, копіі накладных прадставіў. Тады бізнес спачатку дапаможа крыху, пазней яшчэ больш, пазней яшчэ, калі будзе бачыць, што перададзеныя грошы былі патрачаны максімальна эфектыўна. Таму рабі ўсё, як для Госпада.

Калісьці я служыў у в. Лядна пад Слуцкам. Сустрэў там чалавека, гатовага даць умоўна 10 тон пліткі на храм. Мы з ім селі, выпілі кавы і разгаварыліся пра жыццё, закранулі духоўныя пытанні. На наступнай сустрэчы ён сказаў, што яго пытанне вырашылася станоўча, наша папярэдняя размова яго вельмі закранула. Я яго не прасіў, але ён нам замест 10-ці тон пліткі даў 100. Таму важна ставіцца да бізнесмэнаў не як да крыніцы прыцягнення сродкаў і дзеля іх круціцца ды танцаваць, а як да духоўных чадаў. Адносіцца да іх, як да кожнага прыхаджаніна. Чалавек жа адчувае, калі да яго падлізваюцца.

***– А ёсць урокі, якія Вы ўзялі ў бізнесмэнаў для сябе асабіста?***

– Канешне. Тайм-менеджмент – падзел спраў на тэрміновыя, важныя, нетэрміновыя і няважныя. Аналіз матрыц, стратэгічнае планаванне, прапісванне бізнес-працэсаў – шмат усяго. Таксама па першай адукацыі я маркетолаг і ў мяне быў вопыт свайго дыджытал-агенцтва, якое рабіла сайты. Усе бізнес-тэхналогіі працуюць паўсюль аднолькава. Гэта не нейкае шаманства, а менавіта тэхналогіі: не святыя і не грэшныя, а проста такая ж навука, як фізіка ці хімія. Мы яе спакойна можам выкарыстоўваць як інструмент без дадатковай маральнай ацэнкі.

Па сутнасці маркетынг – гэта тое самае місіянерства. Толькі маркетынг улюбляе ў прадукт, а місіянерства прапануе пра Хрыста. Аднак метады ў іх абсалютна аднолькавыя. Апостал Павел казаў: "Для ўсіх я стаў усім, каб ўратаваць, прынамсі, некаторых" (1 Кар 9, 22). Гэта той жа першы прынцып навуковага маркетынга, які выкарыстоўваецца ў падручніку Котлера – пазіцыянаванне і дыверсіфікацыя. Мне падаецца, што ён, хутчэй за ўсё, і ўзяў гэты прынцып з Пісання.

***– У аднаго святара ў працоўным кабінеце вісеў плакат з надпісам: "Калі ты нам штосьці зрабіў, калі ласка, не прыгадвай нам больш гэта". Праз яго праходзіла шмат бізнесмэнаў. А Вы якую таблічку павесілі б у сваім кабінеце?***

– У Караткевіча ёсць словы: "Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, – і тады пераможаш". Мая жонка працуе ў IT-кампаніі, і гэта слоган іх фірмы. Каб дасягнуць поспеху, трэба, як Караткевіч казаў, так і рабіць.

***– У Вас не ўзнікае часам думкі, што, нягледзячы на ўсе гэтыя сацыяльныя праекты і аб'ектыўна добрыя справы, хваля секулярызацыі не спыняецца? Людзі не імкнуцца ў касцёлы і цэрквы, а выбіраюць іншы шлях.***

– Я думаю, што імкненне да духоўнасці закладзена ў кожным чалавеку. Усе людзі імкнуцца да Бога, да пазнання чагосьці вышэйшага. Але часта іх адштурхоўвае негатыўны вобраз святароў, вернікаў, біскупаў. Менавіта вобраз жыцця. Мы, веруючыя, не асабліва жывём па Евангеллі. Таму і няма даверу да нас. Рыба гніе з галавы – нам трэба змяняцца, не казаць птушынай мовай, а чалавечай, быць адкрытымі і паказваць добры прыклад. Калі гэтага рабіць не можам, то самі вінаватыя. Канешне, адзінкі стараюцца, а большасць… Вось і атрымліваецца трэнд такі, што гэтая дзейнасць не асабліва дапамагае.

***– Колькасць свецкіх дабрачынных арганізацый сёння расце ва ўсім свеце. Падаецца, што ў духу секулярызацыі людзі найчасцей абіраюць дапамогу свецкім арганізацыям, а не рэлігійным. Па розных прычынах. Як Цэрквам не губляць гэты давер?***

– Быць максімальна празрыстымі. Даверу няма там, дзе ёсць штосьці няяўнае.

Да таго ж прызнаваць свае памылкі. Вялікія арганізацыі, такія як Samsung, LG, Apple і іншыя, а не толькі Цэрквы, з вялікай цяжкасцю прызнаюць свае памылкі. Яны імкнуцца да вобраза "я заўсёды маю рацыю", таму ім складана сказаць: "Я не маю рацыі". Царкве як вялікай арганізацыі з вялікай структурай таксама цяжка прызнаць свае памылкі. Гэта не таму што Царква вось такая, што яна горшая, чым хтосьці, – гэта проста складана.

Яшчэ трэба дадаць, што ў арганізацыі, якая існуе 2000 гадоў, складана штосьці змяняць. Тут змяніць можа толькі Госпад. Калі казаць максімальна маштабна.

Таму, калі Царква будзе прызнаваць свае памылкі, азначаць іх і выпраўляць, калі будзе празрыстасць, тады і больш даверу будзе ў людзей. Трэба мець адкрытае сэрца і быць гатовым да змен.

---

**ЗАДАЙ ПЫТАННЕ**

## Ці можа ўбор быць грэшным?

**teologkatolicki.blogspot.com**

*Настаўніцкі інстытут Касцёла двойчы афіцыйна выказваўся на гэты конт. Абодва дакументы заклікаюць і заахвочваюць біскупаў і святароў тлумачыць вернікам важнасць і значэнне сціпласці ў вопратцы. Прычынай з'яўляецца годнасць чалавечага цела як святыні Святога Духа і абавязак захоўваць цноту: уласную і бліжніх.*

*Дадзеныя дакументы не ўтрымліваюць дэталёвых правіл адносна выгляду адзення. Гэта звязана з тым, што яны маюць агульнакасцёльны характар, г. зн. адрасаваны біскупам усяго свету, якія нясуць паслугу ў розных культурах. Аднак прынцыпы Касцёла і маралі ўніверсальныя, як універсальная і чалавечая годнасць, і небяспека, якая ёй пагражае.*

*Фармуляванне канкрэтных інструкцый і правіл вопраткі было пакінута мясцовым пастырам, якія могуць падысці да праблемы больш дэталёва.*

*У той жа час, практычна кожны чалавек мае пэўнае пачуццё дарэчнасці і прыстойнасці адзення, як увогуле, так і адпаведна сітуацыі. Гэта тычыцца як жанчын, так і мужчын. Відавочна таксама, што годнасці жанчыны ў большай ступені пагражае нясціплы ўбор, які выклікае і прыцягвае пажадлівасць.*

*Варта памятаць, што адзенне – важны метад сацыяльнай камунікацыі, яно мае ўплыў і фарміруе як міжасобасныя адносіны, так і свядомасць, менталітэт і эмоцыі. Таму гэтая сфера не з'яўляецца маральна нейтральнай, свабоднай ад маральных каштоўнасцей і норм. Іншымі словамі: тое, як мы апранаемся, якую вопратку і калі носім, неабыякава.*

*У сувязі з сацыяльнай прыродай адзення як сродку зносін, адзіным крытэрыем для ацэнкі не можа быць уласнае самаадчуванне ці камфорт. Неад'емным фактарам з'яўляецца сацыяльнае ўздзеянне ўбору, яго ўплыў на бліжніх.*

*У межах значэння адзення як сродку выразнасці нельга ігнараваць натуральнае вымярэнне. Убор мае не толькі задуманае значэнне, таму што залежыць не толькі ад таго, што мы хочам выказаць у дадзены момант і сітуацыі, але значна больш ён павінен выражаць тое, што не залежыць ад нашага свабоднага рашэння або намеру, тое, кім і чым мы з'яўляемся аб'ектыўна, натуральна.*

*Наглядны і просты прыклад – пытанне штаноў у жанчын. Няма адназначнага рэгулявання тыпу адзення для жанчын і мужчын, г. зн. таго, як мужчыны могуць насіць сукенкі, якія дэманструюць годнасць, так і нашэнне штаноў жанчынамі можа мець пэўнае апраўданне. Аднак з натуральнага парадку, а менавіта з гендэрнай розніцы ў чалавечым родзе, вынікае неабходнасць адрознення ў вопратцы, тым больш, што з гэтым звязана таксама розніца ў задачах і штодзённых занятках.*

*Такім чынам, нашэнне жаночых штаноў не з'яўляецца безагаворачна грэшным, пакуль гэта належным чынам апраўдана практычнай неабходнасцю. Аднак гэта грэшна, калі вынікае з непавагі да гендэрнай розніцы, г. зн. да парадку стварэння, і тым больш, калі звязана з больш ці менш свядомым прыніжэннем уласнай годнасці і выкліканнем пажадлівасці. Тады гэта нават цяжкі і ганебны грэх, які павінен прывесці да пакарання, пра што таксама гаворыцца ў вышэйзгаданых дакументах Касцёла.*

# МАРА БОГА




Бажэна Панасевіч

Пасля доўгага шляху ўверх на вяршыню, калі пад тваімі нагамі скала ці абрыў, калі навокал бяздонныя прасторы, твае рукі мімаволі самі раскідваюцца ўшыркі, грудная клетка высоўваецца наперад, дыханне запавольваецца і становіцца глыбокім, ціхім. Вочы заплюшчваюцца. Удых-выдых... Прыходзіць адчуванне паўнаты, яднання, міру і свабоды. Час прыпыняецца. Усім нутром адчуваецца шчасце і любоў.

Мы таксама раскідваем рукі, калі басанож бегаем па траве і кружымся. Калі імчым насустрач чалавеку, якога даўно не бачылі, якога так хацелі абняць. Мы раскідваем рукі, калі жадаем зберагчы ці выратаваць кагосьці блізкага, кагосьці роднага, засланяючы яго сабой.

Любоў...

"Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16).

Раскінутыя рукі Езуса на крыжы – гэта свабода і любоў. "Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх" (Ян 15, 13).

"Дзеля свабоды вызваліў вас Хрыстос. Таму трывайце і не паддавайцеся ярму рабства" (Гал 5, 1). Калі звярнуцца да этымалогіі слова "раб", то яна кажа, што першапачаткова гэтае слова значыла "сірата". Сіротамі былі дзеці, якіх выхоўвалі ў чужых сем'ях і на якіх ускладалі самыя цяжкія працы. Правоў яны не мелі ніякіх. Таму паступова "раб" і стала значыць "нявольнік".

Але апостал Павел нам нагадвае: "Вы ж не прынялі духа няволі, каб зноў баяцца, але прынялі Духа ўсынаўлення, у якім мы клічам: «Абба, Ойча!» Гэты самы Дух сведчыць духу нашаму, што мы дзеці Божыя" (Рым 8, 15–16). Ты і я дзеці Божыя. Калінебудзь задумваўся, што Айцец наш усемагутны, усюдыісны – Цар цароў, у якога ў руках цэлы сусвет? Тады чаму мы так часта жывём, як сіроты? Нібыта збіраючы нікчэмныя драбкі ад пышных страў з цудоўнага стала.

"Калі чаго ў імя Маё папросіце ў Айца, дасць вам" (Ян 16, 23).

Маленькія дзеці – гэта няўмольныя "хачушкі": просяць то паесці, то пагуляць, то каб іх абнялі, пацалавалі, каб купілі нешта прыгожае і г. д. Яшчэ дзеці хочуць, каб іх заўважалі, бачылі. І хоць мы становімся дарослымі, хацець не перастаём. Такімі нас стварыў Бог.

Гэтыя "хачушкі" называюцца патрэбнасцямі. Можна звярнуцца да пірамiды патрэбнасцей псіхолага Абрахама Маслоу. Можна таксама да класіфікацыі Энтані Робінса. Ён вылучае 6 патрэбнасцей: бяспека ці камфорт, разнастайнасць ці ўражанне, унікальнасць ці прызнанне, любоў ці яднанне, развіццё, стварэнне ці ўклад.

Для адчування сябе шчаслівым неабходна, каб дадзеныя патрэбнасці былі задаволены цалкам. Аднак гэта немагчыма: мы жывём у недасканалым свеце. Увесь час адчуваем недахоп чагосьці. І тады наш мозг шукае спосабы ці стратэгіі, як папоўніць тое, чаго нам не дастае. Праўда, мозг у нас заўсёды "эканоміць" энергію, г. зн. выбірае такія стратэгіі напаўнення, дзе найменш якіх-небудзь затрат. Або выбірае тое, што ўжо вядома нам з уласнага досведу ці з назірання за навакольнымі людзьмі. Адным словам, тое, што "пад рукой", і гэта не абавязкова карысна для нас.

Напрыклад, пасля доўгай працы (уклад) узнікае жаданне адпачыць (разнастайнасць). Мозг, доўга не думаючы, можа абраць такую стратэгію: пагартаць стужку навін у сацсетках або завіснуць у нейкай гульні. Яшчэ прыклад: табе сказалі словы, якія вельмі ранілі. Ты ідзеш, купляеш нешта з алкаголю ў надзеі на тое, што ён заглушыць цяжкія эмоцыі. Але тут у нас існавала патрэбнасць у прынянцці ці любові ад іншага чалавека. Замест стратэгіі – шляху – любові была абрана стратэгія смерці, г. зн. тое, што губіць нас.

Таму Бог моцна рызыкнуў, стварыўшы нас свабоднымі. Але Ён даў нам розум, волю і пачуцці, каб мы маглі выбіраць дабро. Колькі ў гэтым любові і павагі да свайго стварэння, жадання, каб чалавек узрастаў як асоба.

Свет развіваецца з неймавернай хуткасцю. І ўсё імкнецца нам спрасціць: ад ежы да адносін паміж людзьмі. Каб чалавек менш думаў, менш вёў свядомае жыццё. Г. зн. менш ведаў і разумеў самога сябе, а адпаведна і іншых людзей.

Як часта мы кажам: "Мала 24 гадзін у сутках", "колькі ўсяго яшчэ зрабіць". Жывём па накатанай. Гэтак жа, як у свеце поспеху, у нас, хрысціян, ёсць спакуса: браць на сябе зашмат, браць не сваё. Калі пастаянна няма часу, то спытай у Бога, ці ад Яго гэта? "Усё мне можна, але не ўсё карысна. Усё мне можна, але нічым не дам сябе зняволіць" (1 Кар 6, 12).

Дыхай на поўныя грудзі, жыві свабодна!

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду

***24 ліпеня – каментарый да Евангелля на XVII Звычайную нядзелю** (Лк 11, 1–13)*

### Багацце малітвы

*Дадзены фрагмент Евангелля гаворыць пра каштоўнасць малітвы. У ім мы з самага пачатку бачым, як Езус "маліўся ў пэўным месцы, і калі перастаў, адзін з вучняў Яговых сказаў Яму: «Пане, навучы нас маліцца»" (Лк 11, 1). Мы не ведаем, што гэта было за месца і калі адбылася размова. На самой справе для св. Лукі гэта няважна. А важна тое, што апосталы бачаць Езуса, які моліцца. Малітва – гэта такі вялікі знак, што яны просяць, каб іх навучылі. Менавіта прыклад малітвы Хрыста фактычна з'яўляецца прычынай "святой рэўнасці" вучняў. Яны бачаць Езуса пагружаным у малітву. Не чуюць, што Ён кажа, але ведаюць, што нешта ёсць.*

*Кожны з нас можа адчуць, што гэта ён просіць Хрыста навучыць маліцца. І атрымлівае першую падказку: калі не ўмееш маліцца, ідзі да Пана, Ён цябе навучыць. Гэта падобна на розныя віды практык у прафесійна-тэхнічных школах. Вучні ідуць да свайго майстра, які вучыць іх, як маляваць, як класці плітку, афармляць сады, шыць вопратку і г. д. Ён перадае ім практыку. Тое самае і ў веры: не ведаеш ці не ўмееш маліцца – ідзі да Езуса і глядзі на Яго, слухай Яго, рабі тое, што робіць Ён.*

*Хрыстос адразу ж адказвае вучням: "Калі моліцеся, кажыце: «Ойча, няхай свяціцца імя Тваё, няхай прыйдзе Валадарства Тваё. Хлеба нашага штодзённага давай нам кожны дзень, і адпусці нам грахі нашыя, бо і мы адпускаем кожнаму даўжніку нашаму, і не ўводзь нас у спакусу»" (Лк 11, 2–4).*

*Езус вучыць, што малітва – гэта праслаўленне Бога, пакорнасць Яму, прызнанне таго, што Ён падтрымлівае наша жыццё, прыняцце прабачэння і жыццё ім адносна іншых, здабыванне сіл, каб трываць у добрым. Такім чынам, яна вельмі багатая. Як зместам, так і формай. Вельмі добра, што нас навучылі малітвам: "Ойча наш", "Вітай, Марыя", "Хвала Айцу", "Веру ў Бога" і многім іншым. Але гэта не вычэрпвае малітву. Бо яна значна большая, чым нашы ўяўленні пра яе. Значна глыбейшая, чым наш папярэдні досвед. Аднак кожная яе форма павінна прывесці нас да Езуса.*

А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду

***31 ліпеня – каментарый да другога чытання на XVIII Звычайную нядзелю** (Кал 3, 1–5, 9–11)*

### Манаства ў свеце

*Напэўна, кожны з нас у жыцці адчуваў тое, пра што так ёмiста сказаў адзін з найвялікшых настаўнікаў Усходняй Царквы св. Рыгор Багаслоў: "Адно загадвае мне цела, іншае – прыказанне; адно – Бог, іншае – зайздроснік; адно – час, іншае – вечнасць". Таму надзвычай актуальным гучыць для кожнага хрысціяніна чытанне з Ліста да Каласянаў. Яно заклікае нас да таго, што ў царкоўнай традыцыі называецца аскезай, альбо барацьбой з пажадлівасцямі: "Таму зрабіце мёртвымі тое, што зямное ў целе вашым: распусту, нячыстасць, моцнае захапленне, дрэнныя памкненні і хцівасць, якая з'яўляецца ідалапаклонствам" (Кал 3, 5).*

*З першых стагоддзяў хрысціянства вернікі імкнуліся як мага больш дасканала выканаць параду апостала. Так узнікла манаства, якое ва Усходняй Царкве займае асабліва важнае месца. Настаўнікі манаскага жыцця заклікалі сваіх паслядоўнікаў да радыкальнага выканання евангельскіх запаведзей. "Нельга лічыць мэтай пабожнага жыцця прыкрыццё ляноты альбо ўцёкі ад цяжкасцей. Наадварот, манаскае жыццё з'яўляецца нагодай для няспыннай барацьбы, вялікай працы і цярплівасці ў выпрабаваннях," – пісаў св. Васіль Вялікі.*

*Некаторыя лічаць, што манаства – гэта ўцёкі ад жыцця. Аднак гэта няпраўда. У самоце аскеты рыхтавалі сябе да больш плённага служэння бліжняму – словам, парадай, малітвай. Нездарма многія манахі часта станавіліся біскупамі, як, напрыклад, наш святы Кірыла Тураўскі. Частку свайго жыцця ён правёў у "слупе" – невялікай вежы, дзе маліўся ды вывучаў Божае слова, а потым узначаліў Царкву ў адным з самых старажытных беларускіх гарадоў.*

*Аскеза – гэта прывілей не толькі для манахаў. Многія айцы-пустэльнікі заклікалі сваіх паслядоўнікаў быць "манахамі ў свеце". І сёння кожны з нас на сваім "фронце" змагаецца з распустай, пажадлівасцю ці хцівасцю. Манаскі вопыт вучыць нас: каб дасягнуць поспехаў у барацьбе з пажадлівасцямі, трэба на першае месца ставіць малітву, бо хрысціянская дасканаласць – гэта вынік не філасофскіх разважанняў, а нашага прабывання з Богам.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІНЦЭНТУ ЛІСОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна ўдзяляе свае дары. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ХАНЬКО

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, шмат радасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на сваім святарскім шляху, адорваюць Вас прыязнасцю і зычлівасцю, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй любові і нястомна Вамі апекуецца. Шчасці Божа на доўгія гады!*

*З малітвай парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Мастоў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ СУБЕЛЮ

*з нагоды імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, шмат сіл, стойкасці і радасці ад таго, што ідзеце Божай дарогай да святасці. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Трабаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ САВІЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, сіл, стойкасці і нязгаснага запалу ў служэнні на ніве Пана. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, а Маці Божая адорыць цяплом і ласкавасцю свайго сэрца.*

*Вернікі капліцы Вінцукі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя на доўгія гады, сіл і цярплівасці. Жадаем заўсёды быць з малітвай і несці свет Божай любові ўсім людзям. Няхай Ваша добрае і чулае сэрца будзе перапоўнена радасцю, любоўю і верай, а сіла Божага слова дапамагае быць мудрым праваднiком на дарозе святарства. Заставайцеся заўсёды такім добрым і чулым святаром з вялікім сэрцам.*

*Вернікі парафіі Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ВАРАНЕЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, радасці, аптымізму. У гэты дзень просім Марыю, каб заўсёды ахінала Вас сваёй пяшчотай і любоўю, а Яе ўмілаваны Сын апекаваўся Вамі і вёў па жыццёвым шляху. Нахай кожны дзень будзе напоўнены Божым святлом і дарамі ад Усемагутнага, а Святы Дух дапамагае мудра выкарыстоўваць свае дары і рабіць усё, каб Ваша жыццё было радасцю для людзей і хвалою для Бога.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, Гродна-Паўднёвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ БАРТАШЭВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і шчодрай Божай дапамогі. Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Яго Маці прытуляе Вас да свайго сэрца. Поспехаў у дасягненні пастаўленых мэт, каб вялі за сабой не адно пакаленне і дапамагалі знайсці сапраўдную дарогу ў жыцці тым, хто не знайшоў яшчэ шлях да Бога. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, а таксама за цярплівасць да нас. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас!*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Жырмунаў*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАРЫІ СТАСЕВІЧ

*з нагоды імянін перасылаю сардэчныя пажаданні. Божага блаславення, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, мудрасці і шмат сіл, каб пераадольваць цяжкасці. Няхай Езус Хрыстус асвячае Ваш жыццёвы шлях. Заўсёды памятаю ў малітве.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды надыходзячага дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, сіл і цярплівасці, душэўнага супакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах і шчырых вернікаў на Вашым святарскім шляху. Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, Пан Езус валадарыць у Вашым сэрцы, Святы Дух спасылае свае дары, Маці Божая засланяе нябачным шчытом ад небяспекі, атуляе мацярынскай любоўю і трымае ў сваёй апецы, а нябесны заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна чуваюць над Вамі на працягу ўсяго жыцця.*

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ ШМЫГІНУ

*з нагоды надыходзячага дня нараджэння жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на многія гады. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух напаўняе дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі.*

*Вернікі парафіі Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Мяжэрычы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды надыходзячага дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады душпастырскага служэння. Ніхто, акрамя Хрыста, да канца не ведае, якія вялізныя намаганні даводзіцца прыкладваць святару ў сваім служэнні. Нягледзячы на гэта, у Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню. Як знак Божай любові ўспрымаем тое, што дзякуючы Вам маем магчымасць сустракацца з Панам у касцёле. Ад шчырага сэрца жадаем, каб Бог за ўсё Вам аддзячыў.*

*Дарагі наш Ксёндз Алег!*
*Вам жадаем ад душы:*
*Хай узмоцніць ласку веры*
*Маці Божая з Вышынь.*
*Шлях святарскі хай сагрэе*
*Божы Провід моцай ласк,*
*На шляху жыцця сустрэне*
*Толькі мір, спагада Вас.*
*Дзякуем ад сэрца кожны*
*За паслугу алтара.*
*Доўгіх год Вам, плённай працы,*
*Сіл, здароўя і дабра!*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Навагельні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

## АНОНСЫ

## Запрашаем у пілігрымку ў Вільнюс!

**Асоб, якія жадаюць далучыцца да XXX Юбілейнай экуменічнай пешай пілігрымкі ў Вільнюс, што адбудзецца 20–25 жніўня, просім тэлефанаваць кс. Паўлу Безляповічу па нумары (8 029) 266-77-03.**

*Запіс на тэрыторыі Беларусі трывае да 31 ліпеня. Больш інфармацыі можна даведацца ў кс. Паўла.*

## Дарагія Чытачы!

**У сувязі з водпускам рэдакцыі чарговы нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 11 верасня.**

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Радашковічах правяла Купалаў фэст для ўсіх, хто любіць і шануе народнага паэта Беларусі Янку Купалу. Сёлетні фэст праходзіў у 140-ю гадавіну з дня нараджэння славутага беларускага песняра.

Ян Луцэвіч нарадзіўся ў 1882 годзе ў Вязынцы, быў ахрышчаны ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы старадаўняга мястэчка Радашковічы і атрымаў імя ў гонар Хрыстовага Папярэдніка Яна Хрысціцеля.

Сёлетні Купалаў фэст складаўся з трох частак. Распачаўся ён св. Імшой, пасля якой адбылася музычная праграма і літаратурная імпрэза. Важнай падзеяй стала блаславенне аднойленай мемарыяльнай кампазіцыі, якая нагадвае, што менавіта ў гэтым касцёле 12 ліпеня 1882 года быў ахрышчаны Ян Луцэвіч – паэт Янка Купала.




**рэлігійны часопіс**

10 ліпеня 2022 года ў касцёле св. Ігнацыя ў Віцебску а. Віктар Жук склаў свае апошнія манаскія абяцанні, якія прыняў правінцыял Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі Таварыства Езуса а. Збігнеў Лячкоўскі SJ.

Перад абрадам св. Камуніі першы езуіт з Беларусі склаў абяцанні беднасці, чысціні, паслухмянасці, а таксама асаблівай паслухмянасці Святому Айцу.

Падчас сваёй фармацыі ў ордэне езуітаў айцец атрымаў добрую багаслоўскую і філасофскую адукацыю. 14 жніўня 2014 года з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прыняў святарскае пасвячэнне ў Мінску, з чэрвеня 2019 года з'яўляецца пробашчам парафіі св. Уладзіслава. З таго часу а. Віктар вядзе актыўную дзейнасць па ўсёй Беларусі, распаўсюджваючы ігнацыянскую духоўнасць.




**беларуская рэдакцыя**

Упершыню ў гісторыі тры жанчыны сталі членамі ватыканскай Дыкастэрыі па справах біскупаў. Гаворка ідзе пра намінацыю дзвюх манахінь і свецкай верніцы. Сярод іх сястра Рафаэла Пэтрыні, італьянская манахіня з кангрэгацыі сясцёр францысканак Эўхарыстыі, прызначаная ў лістападзе 2021 года Генеральным сакратаром Губернатарата Дзяржавы Ватыкан; сястра Івон Рэнгот, французская манахіня, Генеральная настаяцельніца кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі Хрысціян, вядомых таксама як сёстры салезіянкі святога Яна Боско; і італьянка Марыя Лія Дзэрвіна, старшыня Сусветнага аб'яднання Жаночых каталіцкіх арганізацый.

Святы Айцец Францішак адзначыў, што жанчыны будуць уключаны ў працэс выбару новых пастыраў дыяцэзій.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У аграгарадку Абухава каля Гродна заклалі фундамент новага касцёла. Святыню будуюць па ініцыятыве вернікаў мясцовай парафіі бл. Міхала Сапоцькі. Да гэтага часу ў Абухаве не было каталіцкай святыні, а ў аграгарадку пражывае каля 300 католікаў. На працягу дзесяцігоддзяў вернікі наведвалі касцёлы ў розных месцах, у асноўным па вялікіх святах. Інакш кажучы, не так часта, як ім хацелася б бываць у святыні. Парафіяне хочуць, каб будучы касцёл быў сціплы, але прыгожы, невялікі, але ўтульны. Па праекце ён разлічаны прыкладна на 80 сядзячых месцаў.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37**; **(8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**.
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, праспл. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.